Год III. Сакавік-Красавік 1934 г. № 3-4 (27-28).




Ты єси Пётръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Матд. ЅІ. ИІ.

# Беларуская рэлігійная часопісь.

АЛЬБЭРТЫН
Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Сакавік-Красавік 1934 г. № 3-4 (27-28).

## Вербніца або Уваход Госпада Ісуса Хрыста ў Ерусалім.

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*

*ПАВОДЛЕ СЬВ. ІОАНА РАЗЬДЗЕЛ 12,1—13, ЗАЧАЛА 41.*

1. Шэсьць дзён перад Пасхаю прышоў Ісус у Віфанію, дзе быў памёршы Лазар, каторага ўваскрасіў з памёршых.

2. І прыгатовілі там Яму вячэру, а Марта служыла; Лазар-жа быў адным з тых, што былі пры стале.

3. А Марыя ўзяла фунт пахнючага алеіку, праўдзіва-нардавага, каштоўнага, і памазала ногі Ісуса, і абцёрла ногі Яго сваімі валасамі: а дом напоўніўся алейкавым пахам.

4. І сказаў адзін з Яго вучняў, Юда, сын Сымона, Іскарыёт, каторы меўся Яго выдаць:

5. Чаму не прадалі гэтага алеіку за трыста дынараў і не далі ўбогім?

6. А сказаў гэта не дзеля дбайнасьці аб убогіх, але што сам быў злодзей, а маючы капшук, насіў, што складалі.

7. А Ісус сказаў: Не чапайце яе, бо яна гэта зьберагла на дзень маіх пахавінаў.

8. Бо ўбогіх заўсёды маеце з сабою, але Мяне заўсёды мець ня будзеце.

9. А многія з жыдоўскага народу даведаліся, што Ён там і прыйшлі ня толькі дзеля Ісуса, але каб убачыць і Лазара, каторага ўваскрасіў з памёршых.

10. І разважалі архірэі, каб забіць і Лазара.

11. Бо многія з Жыдоў адступілі дзеля яго і ўверылі ў Ісуса.

12. А назаўтра многа людзей, што прыйшлі на сьвята, як пачулі, што Ісус ідзе ў Ерусалім.

13 Набралі пальмовых галінак і выйшлі насустрэчу Яму і ўсклікалі, кажучы: Осанна! багаслаўлены, што ідзе ў Імя Госпадава! Цар Ізраіля!

14. А Ісус, знайшоўшы осьліка, сеў на яго, паводле Пісаньня

15. Ня бойся, дачка Сыёнская! вось ідзе твой Цар, седзячы на асьліным жарабяці.

16 Ды не разумелі гэтага сьпярша вучні Яго, але як уславіўся Ісус, тады ўспомнілі, што гэта было аб Ім напісана і што так Яму зрабілі.

17 А народ пасьведчыў, каторыя перш з Ім былі, як выззаў Лазара з гробу і ўваскрасіў яго з памёршых.

18. Дзеля таго і выйшаў народ Яму насустрэчу, бо чулі, што Ён учыніў гэты цуд.

---

*«Осанна, багаслаўлены, што ідзе ў імя Госпадава, Цар Ізраіля!»* (*Іон, 12,13*).

Сяньняшняе сьвята называецца Вербніцаю, бо пасьвячаюцца сяньня вербныя галінкі на памятку Уваходу Госпада нашага Ісуса Хрыста у Ерусалім: народ, даведаўшыся, што Вучыцель з Назарэту ўяжджае на асьляці ў Ерусалім, зрываў пальмовыя галінкі ды вышаў на сустрэчу Яго, выкрыкваючы: **„Осанна, багаслаўлены што ідзе ў імя Госпадава, Цар Ізраіля“ (Іо. 12,13).**

Усе былі пад уражаньнем вялікага цуду ўваскрашэньня Лазара з памёршых. Ніколі рэч нябывалая, каб нябожчык вярнуўся да жыцьця; ўсе праслаўлялі вялікага цудатворцу, гэта выявілі вонкава, сустрачаючы Збаўцу з пальмамі ды засьцілаючы дарогу сваімі вопраткамі. Усе былі гатовымі за Хрыста на ўсякую ахвяру. Каб у той час Хрыстос пажа-

даў зрабіцца царом, дык напэўна народ з вялікай радасьцяю ды ахвярнасьцяю памог-бы Яму перамагчы ўсе перашкоды да царскае кароны, але Госпаду Ісусу Хрысту непатрэбна было зямное панаваньне.

Якая была прычына такога праслаўленьня Вучыцеля з Назарэту? Эвангельле выразна зазначае: **„А народ пасьведчыў, каторыя перш з Ім былі, як вызваў Лазара з грobу і ўваскрасіў яго з памёршых. Дзеля таго і выйшаў народ Яму насустрэчу, бо чулі, што Ён учыніў гэты цуд“** (Іо. 12,17—18). Праз цудоўнае уваскрашэньне з памёршых Ісус Хрыстос выявіў сваю Боскую Магутнасьць, народ паверыў у Яго і, як надлюдзкую істоту, сустрэў.

Прайшло толькі 5 дзён. Дзіўная перамена ў гэтым народзе: тыя-ж самыя, што з вялікім захопленьнем праслаўлялі Вучыцеля з Назарэту, выкрыкваючы ,,Осанна,“ цяпер зусім іншае выкрыкваюць: **„Укрыжуй, укрыжуй Яго“** (Іо.19,6) Як пагода мяняецца, так сама і пагляд ды ацэна ў людзей зьменныя. Аднаго ды таго самага чалавека адныя выхваляюць, выносяць да неба, лічаць сьвятым, а другія, наадварот, таго-ж самага чалавека ганяць, бачаць у ім толькі злое, не знаходзяць слоў ганьбы, лічаць яго за найгоршага сярод людзей. Гэта ёсьць доказам, як людзі могуць мыліцца, і мыляцца, бо пярэчаць сабе. Бывае нават, што ня іншыя, а тыя-ж самыя людзі аб той-жа самай асобе: сяньня яе лічаць за сьвятую, найлепшую, а заўтра ды мо‘ нават гэтага-ж дня лічаць яе за найгоршую. Гэта-ж самая выявілася адносна і да Збаўцы. Няма чаго дзівіцца таму, што аб людзях, каторыя могуць мець у сабе добрае і благое, людзі розна судзяць; але нават на асобе Ісуса Хрыста такую маюць нясталасьць. Таго, Каторы быў Богам, Каторы нават і цeню граха ня меў ды ня мог мець, аднак-жа асудзілі, як найгоршага ліхадзея сярод людзей, горшага нават за Вараву разбойніка. Вось цана славы і людзкога прысуду. Як-жа людзі памыліліся.

Бываюць вялікія ды вельмі сумныя памылкі ня толькі адносна да Хрыста, але і людзей, як-жа часта людзі несправядліва асуджваюць. Вось прыклад:

У 1852 годзе ў Оратове на Украіне выстралам з стрэльбы забіты быў Казімер Лешкевіч. Падстрэлены, ўміраючы, некалькі разоў сказаў: а. Кубыловіч; гэта чулі прысутныя. На вышках у царкве знайшлі стрэльбу і на падставе гэтых даных абвінавацілі настаяцеля оратоўскае парахвіі у забойстве. Адбыліся суды, сьвяшчэньнік паўтараў: „Нічога ня ведаю, я невінаваты“, аднак быў засуджаны на 20 гадоў катаржных работ у Сыбір. Цар Мікалай І-шы 28 студня 1853 году пацьвярдзіў прыгавар словамі „Быть по сему.“ Паводле пратаколу Жытомірскае Кансысторыі 13 траўня 1853 г.

япіскап Бароўскі даканаў над прысуджаным абраду пазбаўленьня сьвяшчэньніцкае годнасьці.Выпаўніў япіскап гэты абавязак са сьлёзамі ў вачох, бо быў пераканаваны у нявіннасьці сьвяшчэньніка. Сьвецкая ўлада, пазбаўленага усіх правоў, сьвяшчэньніка ўзяла і выслала на катаржныя работы ў Сыбір. Шмат гадоў ён працаваў, як катаржнік, якія цярпеньні перанёс—адзін Бог толькі ведаў. Дзіўнае ўражаньне рабіў гэты ціхі і лагодны арыштант на стражнікаў ды таварышоў нядолі, усе яго шанавалі і любілі. Не дачакаўся канца мукаў, вычарпаны цяжкаю працаю ды цярпеньнямі, памёр на катарзе.

Прайшло 27 гадоў; 6 сакавіка 1880 г. паміраў чалавек, каторы калісьці быў закрыстыянам у Оратове. Перад духоўным айцом ды перад сьведкамі прызнаўся, што гэта ён, налажыўшы на сябе расу сьвяшчэньніка, застрэліў Казімемера Лешкевіча (з жонкаю якога меў грэшную сувязь). Зараз-жа пасьля злачынства пайшоў да споведзі да а. Кубыловіча, праз гэта прымусіў яго да маўчаньня.

Пасьля гэтага прызнаньня выслалі тэлеграму на Сыбір, каб звольніць невінаватага арыштанта, а яго ўжо ня было паміж жывымі.

Выявілася толькі па сьмерці нявіннасьць гэтага чалавека. А ці мала было выпадкаў, што і па сьмерці праўда ня выходзіла наверх. Чалавек зыходзіць з гэтага сьвету ў вачох людзей, як вялікі ліхадзей, а перад Богам, як сьвяты. Грамадзкая думка можа мыліцца і мыліцца, а Госпад Бог ніколі не памыліцца.

Як ганьба, так сама і слава людзкая нічога ня варта. Як дым узносіцца ўгару і хутка гіне, так і слава ў людзей. Вартасьць чалавека ў вачох Божых — гэта скарб, каторы ані іржа не пераесьць, ані моль ня зьнішчыць, ані злодзей не ўкрадзе. Толькі аб адным мы павінны рупіцца, каб падабацца Богу, разам з тым вельмі часта, але не заўсёды, будзем таксама падабацца людзям. Кажу не заўсёды, бо можа здарыцца, што людзі будуць ганіць за добрыя пастулкі, лічыць нас за ліхадзеяў.

Напрыклад, як-жа добра ды паводле волі Божай пастулае той, хто з перакананьня, а не дзеля якой карысьці матар'яльнай, пакідае схізму ды прыймае Сьв. Унію. Гэтым самым тады выпаўняе волю Хрыста: **„Няхай будуць усе адно“**, (Іо.17,21). Не зьвяртаючы ні на што і ні на каго ўвагі, гэткі чалавек шчыра працуе, каб усіх хрысьціян злучыць у адну Царкву, бо Бог ёсьць адзін. Аднак-жа як часта гэтага чалавека лічаць за ліхадзея, выдумваюць няведама што, прыпісваюць яму намер, які яму і да галавы ня прыходзіць. Ня трэба на думкі людзей зьвяртаць увагі. Людзі сягоньня ганяць першых барацьбітаў за сьвятую ідэю злучэньня

хрысьціян, а як пашырыцца Сьв. Унія, тады будуць выхваляць; аднак не дзеля славы людзкой, але толькі дзеля славы Божае трэба працаваць ды цярпець.

Сяньняшняе сьвята хай будзе для нас навукай, чым ёсьць слава ў людзкіх вуснах. Думкі людзкія, як тыя лёгкія хмаркі, што носяцца па небе, не стаяць на месцы, а плывуць за лёгкім павевам ветру. Вартасьць-жа ў вачох Бога нязьменная, як Ён сам нязьменны, і хвала Божая за добрыя паступкі, таксама нязьменная, будзе трываць навекі. Амін.

*а. Антоні.*

---

# Пастырскае пісьмо Япіскапату Польшчы.

### Аб хрысьціянскім духу ў Польшчы.

Наймілейшыя ў Хрысьце! Было гэта на парозе човае эры ў гісторыі чалавецтва, калі ў сваёй уласнай дзяржаве мы прыступалі да фармаваньня свайго адроджанага жыцьця. У Эўропе пачынаў уцьвярджацца новы палітычны ўклад. Ува ўсім сьвеце пачалося шуканьне іншых спосабаў разуменьня жыцьця, іншых грамадзкіх ладаў і розных формаў дзяржаўнае арганізацыі. Пасьля пятнаццацёх гадоў мы не знаходзімся яшчэ на канцы гэтых праабражэньняў. Не адно ліха папраўлена і створаны вялікія рэчы. Але адначасна зроблена шмат памылак. Ледзь што ня шырока распасьцёрліся настроі страху і бязраднасьці. У некаторых месцах вытварыўся рэвалюцыйны псыхоз, які адкідае ўсё, што дасюль было. Ужо і ў рэлігійную галіну хоча ўрывацца пераварот.

Было-б вялікаю памылкаю недацэньваць мамэнту, які адкідае гэтулькі паняцьцяў і доктрынаў, але было-б яшчэ большаю памылкаю не пазнаваць межаў, якіх не павінна пераходзіць хоць-бы і найгэніяльнейшае наватарства.

Што можа заламацца? Што чалавеку зьмяніць можна?

Заломліваюцца творы чалавечыя, бо яны па істоце сваёй часовыя і зьменныя. Зьмяняецца і будзе зьмяняцца тое, што ёсьць творам чалавека. У будове вякоў паслугоўваецца Правідзеньне чынамі чалавечымі, але да часу і ў межах сваіх плянаў. Пасьля яны паражываюцца і адступаюць месца іншым. Сам чалавек прыкладае руку да руйнаваньня

твораў гэніяў і гэрояў, якія былі раней за яго. Сярод высокіх парываў, сярод ахвяраў і грахоў, сярод памылак і няўдачаў творыць сабе чалавецтва новыя рэчы. Калі-нібудзь іншае пакаленьне пераверне іх, як старыя ды некарысныя, і заменіць іх нечым іншым.

Што ня можа заламацца? Чаго чалавеку нельга руйнаваць?

Ня можа заламацца на сьвеце праўда Божая. Нельга чалавеку руйнаваць Божага закону. Праўды гэтае ня выдала думка чалавека. Закону гэтага не ўстанавіла воля чалавечая. Яны вышэй за чалавека, вышэй за яго ўладу і волю, хоць яны ёсьць для яго. Значэньне іхнае ёсьць незалежным ад часу і ад таго, што ў часе дзеецца. Яны вечныя. У кожным ладзе навука Хрыстова будзе „сьвятлом на асьвету народаў“. Ува ўсе часы закон Яго будзе моральнаю нормаю чалавецтва і „вуглавым каменем“ ладу ў грамадзянствах.

Дзеля гэтага ў сяньняшняй гістарычнай буры не шкадуем таго, што, як чалавечы твор, запраўды перажыло. Наадварот, як залог лепшых часоў, прывітайма тыя праўдзівыя вартасьці, якія народзяцца з боляў пераломў. Але затое тым большы націск палажэм на тое, каб мы ў часе гэтых праабражэньняў ня згубілі нічога з таго, што ёсьць Божае і Хрыстовае. Мы ня можам прызнаць аўторытэту, які-б мог унезалежніць чалавецтва ад Тварца. Ня можам памірыцца з пробамі, якія хацелі-б чым-нібудзь замяніць веру аб'яўлёную. Ня можам пазволіць увядзеньня новае этыкі, якая мела-б замер замяніць сабою натуральны і аб'яўлёны моральны закон. Ня можам дапусьціць да абмежаваньня настаўніцкага і пастырскага пасланьніцтва Царквы.

Тым пільнейшую ўвагу зьвярнем на цэласьць насьледзьдзя хрысьціянскага, што сучасная зьмена адносін ад'значаецца вялікаю расправаю зла з дабром, адчайнаю барацьбою ляіцызму з каталіцызмам. З гэтых змаганьняў павінна выйсьці перамога Хрыста. Толькі Хрыстос можа кіраваць новым часам.

І дзеля гэтага мы, Япіскапы, сьвядомыя ў сваіх павіннасьцях, уважна сочым за разьвіцьцём адносін і пры розных аказіях упамінаем тых, „якія не пазналі глыбіні сатанінскае“ (Ап. 3, 24). **„Глухі і нямы дух“** (Мар. 9, 24), які заўсёды ў мінуту небясьпекі хоча ўсьніць чуласьць сумленьня народаў, ня мае спакою ад Царквы. Довадам гэтага хай будзе і гэта супольнае наша пастырскае слова, з якім зьвяртаемся да Вас з тэю думкаю, каб павялічыць Вашую ўвагу на замахі, якія пад лёзунгам новых дзеяньняў рыхтуюцца да таго, чаго людзям зьмяняць нельга, бо яно вечнае і Божае.

У пачатку хочам зазначыць, што ўнутранае жыцьцё Царквы ў краі з кожным годам дазнае палепшаньняў і разбудовы. З пасьледзтваў часу няволі пасланьніцтва Царквы вызвалілася блізка што зусім. Ухілілі мы ў вялікай меры грозны недахоп духавенства. Мы пашырылі духоўніцкія студыі. Зрабілі даступнейшаю для масаў практыку веры, шырока дзелячы прыходы і будуючы цэрквы. Дух Сьвяты ўцьвярджае веру. З Яго ласкаю надпрыроднае жыцьцё паглыбляецца галоўным чынам праз эўхарыстычны і рэколекцыйны рух. Зацікаўленьне рэлігійнымі справамі агартае шырэйшыя слаі. Адплывае хваля рэлігійнага позытывізму і лібэралізму. Сярод людзей сьвецкіх усё часьцей сустраем мужчын і жанчын з выдатным апостальскім духам. Ідэя каталіцкага чыну пранікае ў шырокія слаі. Ажыўляецца пульс парафіяльнага жыцьця. Хрысьціянскае міласэрдзе робіць вялікія рэчы. Зьмяняецца аблічча каталіцкага жыцьця. Яно ёсьць выразьнейшае, глыбейшае. Агул каталікоў ёсьць болей з іерархіяй злучаны, болей солідарны, актыўнейшы, болей праняты адказнасьцю за веру і Царкву. А што найлепш характарызуе сяньняшні каталіцызм, дык гэта смага ўдухоўленьня і сьвятасьці.

Але ня ўсіх агарнуў гэты рух. Зазначаецца пэўная паваротная хваля тых цячэньняў, якія ў Эўропе перажыліся і якія дарэшты кампрамітуюцца. Тады, як народы рацыянальна закопваюць дух француская рэвалюцыі, у нас некаторыя жменькі людзей штучна гэты дух уваскрашаюць. Як быццам Польшчы выпаў сумны ўдзел ратаваць коштам свае будучыні гінучы сьвет матар'ялізму і новачаснага паганства, які павінен упасьць і ўпадзе. Ідзе аб тое, каб ён нас перад гэтым не заразіў і каб мы буйнога нацыянальнага жыцьця не зьмянілі на мёртвыя стаўпы дзеля падтрымліваньня таго, што на сьвеце валіцца і заваліцца мусіць.

У галіне гэтай мы павінны паказаць на некалькі грозных праяваў, якія знамянуюць шырока заложаны наступ, які мае задачаю адрэзаць народ ад жыцьцядаўчых крыніцаў Хрыстовых, аддаліць яго ад дыханьня праўды Божае і сьпіхнуць на шляхі, якія абязлюджваюцца і на якіх адбылася цяперашняя анархія, упадак і паніжэньне Эўропы.

## II. Барацьба з вераю Хрыстоваю і Царквою.

З болем мусім прызнаць, што ў Польшчы некаторыя групы абвясьцілі барацьбу веры Хрыстовай. Разьбіраючы матывы гэтай барацьбы, мы не знаходзім ніводнага новага аргумэнту ці думкі. Гэта ёсьць старыя, аслаўленыя царкоўнаруйнацкія лёзунгі антырэлігійных рэвалюцыяў. Яны былі тут для агулу невядомымі, дзеля гэтага маюць выгляд наві-

наў. Дзе-нібудзь у іншым месцы моцна перажыліся і ўступаюць месца каталіцызму, які адраджаецца. Дык і ня ёсьць гэта ідэі свае, польскія. З патрэбамі і настроямі польскае душы яны ня маюць нічога супольнага, а ня гледзячы на гэта іх расхвальваюць, як польскую духовую запраўднасьць. Пачынае і ў нас паўтарацца фраза, кінутая сто пяцьдзесят гадоў назад, што поступ перачыркнуў хрысьціянства, што даўнейшая вера зьнішчэла, што трэба стварыць новую, але датарнованую да сяньняшняга чалавека. Апрача гэтых фразаў больш ніякіх довадаў прывясьці ня ўмеюць, дзеля таго, што ніводзін мудрэц не стварыў навуковае асновы вольнае думкі, ніводзін гэні ня выказаў спрэчнасьці паміж Хрыстом і навукай ды поступам. А публікацыі польскіх вольнадумцаў і камуністых зьяўляюцца друкованым сьведчаньнем поўнае рэлігійнае невучы і недахопу здольнасьцяў да паважнае ацэнкі хрысьціянства на фоне сучаснага жыцьця.

Гэта факт, што ў Эўропе ідзе да ўпадку не каталіцызм, а тое, што ў замерах вольнадумцаў мела быць яго працістаўленьнем і насьледнікам. Банкрутуюць асуджаныя Царквою тэорыі, значыцца — марксызм, позытывізм, лібэралізм ды спрэчны з Энцыклікамі і этыкай капіталізм. Гіне фальшывая культура, вырасшая з супярэчнасьці да Хрыстовае навукі. Тымчасам тое, што ёсьць каталіцкім, ня падае, адраджаецца, расьце і перамагае.

Вольнадумцы і бязбожнікі ў тым маюць рацыю, што ня лічаць вераю Хрыстовою таго шырокага і бясьсільнага хрысьціянства, ад якога паміраюць сэкты, а тое хрысьціянства, якое жыве паўнатою свае першабытнае моцы ў Каталіцкай Царкве. Дзеля гэтага яны мала аб сэктах рупяцца, а замест гэтага вядуць напружаную барацьбу з Каталіцкаю Царквою і Яе павагаю. Людзей, неазнаёмленых з іншымі мэтамі, зводзяць прыкідваньнем, што ня з Хрыстом боруцца, а з клерыкалізмам. І чаго толькі Царкве не закідаюць? Што мае скрытыя палітычныя мэты, што выходзіць на барацьбу з Дзяржаваю, што ў краі прапагуе заграрнічныя палітычныя доктрыны, што духавенства ня мае грамадзянскага пачуцьця, што яно — праціўнік Ураду, што наагул добры каталік ня можа быць добрым грамадзянінам і гэтак далей. Муцяць адносіны паміж Царквою і дзяржаваю. Ствараюць штучную атмосфэру напружаньняў і барацьбы ды наагул пашыраюць зданьне, што новачасная Дзяржава ня можа жыць у згодзе з Царквою.

Калі каму з Вас, найміленйшыя, перасьцярога гэтая патрэбна, дык хочам Вам прыпомніць словы сьв Паўла: „Хай вас ніхто ня зводзіць пустымі словамі, бо дзеля гэтага прыходзіць гнеў Божы на сыноў нявернасьці“ (Эф. 5. 6.). На доктрынальныя недарэчнасьці бязбожнікаў і вольнадумцаў адкажэце паглыбленаю рэлігійнаю асьветаю ды лепшаю

практыкаю веры. Хрысьціянства, як плод агульнага Адкупленьня сьвету, дасьць пагадзіць сябе з кожнаю расаю, з кожнаю моваю, з кожным разьвіцьцём поступу. Будзе заўсёды ў нязгодзе з памылкаю, фальшам і грахом. Ніколі ня будзе працівіцца чалавечай прыродзе, але заўсёды будзе рабіць яе лепшаю. А належна зразумелае і поўнасьцю праведзенае мае моц аздаравіць кожную эпоху.

Галосячы і праводзячы ў чын Хрыстовую навуку, Царква не баіцца гістарычных зьменаў. Захавае веру ў Збаўцу і захавае веру ў чалавецтва. Як сторож Абʼяўленьня нярааз наражаецца, бо яго мова ёсьць ясная: „так, так, не, не" (Мац. 5, 37). Не пакіне прыпамінаць, што вуглавым каменем будовы сьвету ёсьць Хрыстос, „а хто ўпадзе на гэты камень, будзе скрышаны, а на каго-б упаў сатрэ яго" (Мац. 21. 44). Галосіць, што нельга будаваць польскае будучыні на дэтронізацыі Бога, што нельга дапушчаць, каб шаленствы бязбожніцтва ўядаліся ў польскую душу, што веліч Дзяржавы трэба будаваць на цноце і чэснасьці, на нязьменных моральных законах. Гэткія асновы прапаведуе і культывуе Царква. Гэта пэўна-ж не барацьба з Дзяржавай, не пагроза Польшчы.

Царкве, наймілейшыя, даверыў Адкупіцель нашыя і вашыя душы. Мае Ён, апрача гэтага і **„іншыя оўцы, якія ня ёсьць з гэтае аўчарні"** (Іоан 10. 16). Ён і тых ворагаў сваіх, якія **„пырхаюць яшчэ пагрозамі і забойствам"** проці Яго і тых блудзячых, якія **„ходзяць у марнасьці розуму свайго"** (Эф. 4. 17), прытуліць некалі да Сябе міласьціва, а ласка Божая можа не аднаго з іх заменіць у апостала. Сягоньня Адкупіцель кліча кожнага з іх праз вусны нашыя: „Саўле, Саўле, чаму Мяне прасьледуеш?" (Дз. Апост. 9. 4).

## II. Другая перасьцярога наша датычыць загрожаных асноваў хрысьціянскай абычайнасьці.

Пасьля сусьветнае вайны ўварвалася ў жыцьцё народаў зьдзічэньне і моральны ўпадак. Хваля зла не пашкадавала Польшчы, у якой, дзякаваць Богу, хрысьціянскае этычнае пачуцьцё сільней ёй процістаўілася, чымсь гэта мела месца ў іншых краёх. Царква стала перад вялізарнымі здарэньнямі і, падвойваючы свае натугі, адпірае ад народу атаку неабычайнасьці.

Але ў гэтай працы натыкаецца на арганізованую работу дзейнікаў, якія хочуць накінуць Польшчы іншую этыку і іншую абычайнасьць, непадобную да моральнага закону Хрыстовага. Аснаўным зьместам гэтае новае этыкі ёсьць адкіданьне шостае запаведзі Божае. У сьвятле гэтае новае

этыкі няма граха ў галіне абычаяў, апрача гвалту. Усё ўсім пазволена. У гэтай этыцы няма месца на скромнасьць, саромлівасьць, апанаваньне сябе, жыцьцёвы аскетызм, малжэнскую вернасьць. Моральная аснова: не грашыць — заменена гігіенічнаю парадаю: абы ўхіліцца ад пэўных пасьледзтваў.

Гэтая моральная рэвалюцыя выцякае з істоты натуралізму, які імкнецца да вызваленьня чалавецтва з залежнасьці ад Бога, і вядзе няўхільна да бальшавіцкае моральнасьці. Гэткім чынам паўстае перад намі пад назовам паправы абычаяў агідны сьвет упадку і бяссорамнасьці. Рух гэты, прапагованы арганізацыямі і лекцыямі, літэратураю, прэсаю і відовішчамі, асьмешвае асновы хрысьціянскай этыкі, апраўдавае кожны праступак, легалізуе кожную нячыстасьць і гразь. Эротыка і распушчанасьць мае пазбавіць польскую моладзь моральнага пачуцьця, здароўя і сілаў. Распуснасьць мае здэправаваць дух польскі. Хваробы маюць стачыць польскае племя. Самаволяю і бяскарнасьцю прыватнага жыцьця сяньняшні чалавек мае сабе ўзнагарадзіць вонкавыя цуглі сьцесьненага парадку грамадзкага. Паводле маніфэсту сэксуальнае рэформы, сучасны чалавек — гэта вольнадумец, цнота — мана, грэх — забабон, а неакелзаны ўжытак жыцьця — доказ поступу. З жахам сьцьвярджаем небясьпеку моральнага дэкадэнтызму. Узьнясемся, наймілейшыя, вышэй за выраджэньне чалавечае думкі. Бо гэта-ж ёсьць праяваю ідучай да ўпадку цывілізацыі, калі чалавецтва не здабываецца на сілкаваньні, патрэбныя для аздараўленьня распушчаных абычаяў, а наадварот — абніжае да іх моральныя асновы.

Для каталікоў шостая запаведзь Божая ёсьць вечным этычным загадам. Грэх застанецца грахом. Ня гледзячы на слабасьць душы, мы павінны рашуча парваць з ім. Ня гледзячы на пакусу і прапаганду бяссорамнасьці, адвярнемся ад эротыкі і сласноты, якія ёсьць азнакаю слабых пакаленьняў. Не дапусьцем, каб наша любая моладзь, цьвёрдая, чыстая і шляхотная прызнала ўжыцьцё і прыемнасьць, як этычную аснову. Гэткія пагляды азначаюць пакаленьне, кранутае выраджэньнем. Цнота чысьціні, унутраная і вонкавая жыцьцёвая дысцыпліна — гэта каштоўнасьць, невядомая распусьнікам. Гэтая цнота вельмі актыўная, баявая, акупляная не пасыўнасьцю, а энэргіяй і сілай духу. Бываюць, нажаль, і з боку каталіцкага благія прыклады, якія людзей, што стаяць здалёк ад практыкі хрысьціянскага жыцьця, наводзяць на фальшывы вывад, што цнота чысьціні ёсьць немагчымаю. А ўсё-ж за сьв. Паўлам кожны хрысьціянін можа сказаць: „Усё магу ў тым, каторы мяне ўмацняе“ (Філ. 4. 13).

Вера і ласка Божая, Сьвятыя Тайны і апанаваньне сябе, згодна з жыцьцём духовым, далі і заўсёды даюць гэрояў і гэроек цноты. Сустрачаем іх усюды. Іх поўна ў радох моладзі. Будзе іх у будучыні яшчэ больш, бо каталіцкае пачуцьцё і нацыянальная годнасьць пераломяць у краі прапаганду гнілі.

*(Канец будзе).*

---

а. Я. Урбан.

# Праваслаўе і разводы.

У варшаўскай праваслаўнай кансысторыі апячатаваны дзяржаўнаю пракуратураю, а часткаю забраны для сьледзтва **акты справаў аб разводах.** Бо кансысторыя абвінавачана ў нязгодным з законам разрываньні шлюбаў, споўненых у Каталіцкай Царкве. Весткі аб пацягненьні праваслаўных япіскапаў да адказнасьці за дзеяньні Кансысторыі ўжо запярэчаны; у кожным выпадку, калі ў архіяпіскапскім судзе былі незаконныя дзеяньні, дык нехта за іх павінен адказваць.

Справа гэтых разводаў мае ўжо даволі доўгую гісторыю. Трэба ў ёй адрозьніць бок фармальнае згоднасьці з дзяржаўнымі законамі і бок мэрыторычны. Аб адным і другім гэтых некалькі ўвагаў.

У расейскія часы праваслаўная Царква адносна компэтэнцыі ў справах шлюбаў і разводаў мела прывілеі ў параўнаньні да іншых Цэркваў. Калі ішло аб каталіцызм, дык ён мог дапушчаць на свой форум малжэнскія справы толькі тады, калі абедзьве староны належалі да Касьцёла, у той час як Царква мела права судзіць і ў гэткіх разох, калі ўжо адна старана была праваслаўнаю. Шукаўшыя разводу каталікі, ня могучы атрымаць яго ў сваім Касьцёле (дзе ў выпадку важнасьці і консумацыі малжэнства разводаў няма), пераходзілі ў праваслаўе і з лёгкасьцю развод атрымлівалі. Усе былі задаволены: пэтэнт, што свайго дасягнуў, Царква, што набывала яшчэ аднаго вернага, Кансысторыя, што павялічвала даходы. Праўда, не заўсёды задаволены былі ўсе, бо другая старана з каталіцкага саюзу, якраз часта і невінаватая ў расстройстве жанімства ды веры сваёй верная, заставалася зьвязанаю ранейшаю прысягаю і абцяжанаю дзяцьмі, у той час, як яе экс-малжонак закладаў сабе з багаслаўленьня Царквы новую дружыну.

Гэты прывілей Царквы быў крыху абмяжованы ўжо ў 1881 г. царскім самадзяржаўем, і хоць Царква няшмат сабе з гэтага рабіла, трэба таксама прызнаць, што гэткага роду выпадкі былі ня частымі, бо адрачэньне ад каталіцкае веры на карысьць праваслаўя ў опініі грамадзянства азначала тое, што і нацыянальная здрада, а перад гэткім шагам адступаў не адзін нават благі каталік-Паляк.

Але прышла палітычная свабода. Праваслаўе у Польшчы прыняло новую номэнклятуру: **Польская Праваслаўная Царква.** Перайсьці ў праваслаўе — гэта для не аднаго значыць ужо перайсьці толькі з аднае польскае Царквы ў другую, гэтак сама польскую. У пэўных сфэрах ніхто з гэтага ня зьдзіўляецца. О, нават некаторыя групы, якія адступніцтва сваё ад каталіцкае Царквы баранілі тым, што гэта Царква чужая, бо рымская, аддаваліся пад юрысдыкцыю праваслаўнага мітрапаліта, бо гэта „аўтокэфалія" польская. Мы не ўваходзім у тое, колькі праўды было ў гэтых „нацыянальных" пабуджэньнях; затое было пэўнаю справаю, што гэта „польская нацыянальная праваслаўная царква" і яе духоўнікі выступалі адразу — нават пры помачы журналістычных інсэратаў, — як бюро разводаў для каталікоў. У хуткім часе праваслаўная варшаўская кансысторыя пажадала сконцэнтраваць гэтага роду апэрацыі ў сябе і, праўда, працэдура пад заслонай старых прывілеяў Царквы добра расьцьвітала. Аблічаюць колькасьць гэткіх разводаў у сярэднім на 1000 штогоду, якія ведама-ж давалі кансысторыі паважныя даходы, бо гаварылі аб сярэдняй таксе — 500 злотых за развод, хоць з боку праваслаўных цьверджана было, што была яна толькі 300 зл.

Справа гэтая парушана была нават у сойме, ня помню: у 1924 ці ў 1925 годзе. Тагочасны міністар справядлівасьці Жыхлінскі ў адказе на інтэрпэляцыю прызнаў, што довады праваслаўных кансысторыяў, якія ссылаюцца на даўнейшыя прывілеі, не зьяўляюцца згоднымі з законам, асабліва пасьля констытуцыі 1921 году, каторая ўсе прывілеі гэтага веравызнаньня ў адносінах да іншых скасавала. Аднак-жа дадаў, што па прычыне іншага тлумачэньня закону, датарноўванага ўладамі праваслаўнае Царквы, ён чуецца бясьсільным і што атрымаў ад мітрапаліта толькі дакляраваньне, што разводы каталіком будуць давацца не раней, як праз год ад дня пераходу іх у праваслаўе. Нельга выйсьці з зьдзіўленьня ад уступчывасьці тагочаснага вартаўніка правапарадку ў Рэчыпаспалітай. Ня ведаем тымчасам, як было датрымлівана дакляраваньне мітрапаліта Дзіанісія. Справа узурпаваньня сабе прывілеяў у данай галіне праваслаўнымі кансысторыямі была прадметам увагі Найвышэйшага Суда ўжо колькі разоў, напр. 23 сакавіка 1932 г. і заўсёды рашаная была ў тым сэнсе, што да Царквы не належаць ня-

кія прывілеі і выняткі з агульнага права. А паводле агульнага права аб шлюбах, якое абавязвае ў б. Царстве Польскім, пастанаўляньне аб важнасьці ці няважнасьці шлюбнага саюзу належыць да судоў таго веравызнаньня, у сьвятыні якога ён быў зроблены, справы-ж аб разьвязаньні важнага саюзу (у веравызнаньнях, якія прызнаюць разводы) падлягаюць компэтэнцыі не пазываючай стараны, але пазванае. Значыцца пераход з каталіцызму ў праваслаўе даваў-бы кансысторыі законную аснову дзеля прыняцьця просьбы аб разводзе толькі ў тым выпадку, калі-б або абедзьве староны перайшлі ў праваслаўе, або калі-б тая старана, проці якое справа заводзіцца, але ня тая, якая яе заводзіць. Пэўна-ж у практыцы заўсёды бывала наадварот, і варшаўская праваслаўная кансысторыя ўпорліва ігнаравала і польскую канстытуцыю ў гэтым пункце і закон аб шлюбах, які абавязвае на данай тэрыторыі, і пастанову Найвышэйшага Суда — ды ўвесь час рабіла сваё. Якраз цяпер мае быць нарэшце вырашана, ўжо ў карным парадку, ці Польская Рэспубліка запраўды ёсьць бясьсільнаю, калі ідзе аб інстытуцыю праваслаўнае Царквы?

Мы сказалі, што справа гэта, апрача фармальнага боку, мае бок мэрыторычны, які можна будзе абгаворваць нават і ў тым выпадку, калі суды Рэспублікі спасуюць перад судамі праваслаўных кансысторыяў.

Ідзе аб прычыны, якія Царква лічыць за такія, што іх хапае дзеля разьвязваньня шлюбаў праз разводы. Нядаўна сам найвышэйшы ўладыка праваслаўнае Царквы ў Польшчы, мітрапаліт Дзіанісі, палічыў патрэбным выступіць у ролі абаронцы практыкі разводаў у падуладнай яму кансысторыі. У гутарцы, паданай у рэдакцыю малаведамае газэткі *„Czerwona Róża"*, цьвярдзіў, што разводы даюцца толькі тады, калі позва ёсьць „абаснованай". „Праваслаўная Царква, — гэтак выводзіў мітрапаліт, — у аснове лічыць шлюб неразрывальным і дапушчае разьвязаньне яго, згодна з Сьв. Пісаньнем, у тых выпадках, дзе сьвятасьць шлюбнага саюзу нарушана, нарушана яго істота, спынілася яго трываньне, а прымусовае прабываньне ў фармальным малжэнскім саюзе пагражае маральнай чысьціні далейшага жыцьця малжонкаў, іх узаемнай бясьпецы, цягне за сабою нелегальныя зьвязі, тайнае і яўнае згоршаньне і інш." Я. П. мітрапаліт выступіў тут, як бачым, як санатар публічнай абычайнасьці, якой пагражаюць нібыто вялікія небясьпекі з боку асноваў, якіх трымаецца каталіцызм. Дзеля гэтага праваслаўю належалася-б удзячнасьць ад польскага грамадзянства за гэтую яго санацыйную працу.

Аднак-жа з вывадамі мітрапаліта, ня гледзячы на ўсе паважаньні, якія яго высокай годнасьці належацца, трэба

паспрачацца. Дзе ён знайшоў у Сьв. Пісаньні аснову дзеля апраўданьня ўсіх, даваных яго кансысторыяй, разводаў? Пэўна меў на ўвазе вядомы тэкст з 19 разьдз. эвангельля сьв. Мацьвея: „выключыўшы выпадак блудадзеяньня“. Абмінуўшы прынцыповую спрэчку аб тым, ці ў гэткім выпадку можна толькі з жонкаю разыйсьціся, ці можна таксама ўзяць другую і дапусьціўшы, што праваслаўнае, а не каталіцкае тлумачэньне ёсьць праўдзівым, паўстае яшчэ пытаньне, ці ў гэтым выпадку зьмяшчаюцца ўсе прычыны, па якіх Царква ў нас дае разводы? А калі не, дык хто ўпаважніў яе да расшыраньня сэнсу слоў Хрыстовых?

Расшыраньне гэтае адбывалася памалу. Сьпярша пад уплывам сьвецкага візантыйскага права, якое за прычыну, хапаўшую дзеля разарваньня шлюбу, лічыла жывеньне аднэю стараною благіх замераў проці імпэратара. На Русі Царква сагнулася нават перад паганскімі народнымі звычаямі, замест таго, каб іх поўнасьцю перарабіць паводле эвангельля. Прычыны дзеля разводаў уводзіла пасьля царская ўлада, напр. прычынаю гэткаю прызнаны быў прысуд аднаго з малжонкаў на катаргу або далёкае пасяленьне. Нарэшце прыклады пратэстанства, пазьней моральнага лібэралізму пацягнулі за сабою тое, што расейская Царква таксама адчыняла што раз дык шырэй вароты для разводаў, аж нарэшце, на Маскоўскім Саборы ў 1918 г., прыняла гэтулькі прычын дзеля разводу, што ён зрабіўся магчымым, як выражаліся вучні Ісусавы ў сваім пытаньні: „абы з якое рацыі“. Апрача нарушэньня малжэнскае вернасьці ёсьць тут і хваробы цялесныя ды псыхічныя і кіданьне аднэю стараною другое, і шмат-шмат іншых. „*Воскресное Чтеніе*“, крытыкуючы два гады назад проект шлюбнага закону праф. Лютастанскага, няшмат мела сказаць аб прадбачаных прычынах разводу, але крытыкавала гэтую часьць проекту толькі, як вельмі строгую, дзеля таго, што перад дэфінітыўным разводам прадбачыць парагадовую сэпарацыю. Аўтор гэтае крытыкі, вылічыўшы ўсе прычыны, прызнаваныя Царквою ў Польшчы такімі, якіх хапае для разводу, сам на апошнім месцы кладзе: „фактычны распад жанімства і немагчымасьць яго зьдзейсьніваньня па прычыне рознасьці характараў, якая працяг сужыцьця абяртала-б у мучэньне“. Прашу назваць хоць адзін выпадак шуканьня разводу, які ня даўся-б падвясьці пад гэткі „фактычны распад жанімства“. І вось маем разводы старазаветныя *ex qualibet causa* (абы з якой прычыны).

Праваслаўная Царква ў Польшчы і яе мітрапаліт вельмі, як бачым, уражлівыя на мучэньне людзей у жанімствах і жадалі-б паменшыць ім гэтыя мучэньні. Менш уражлівыя на крыўду, якую разводы робяць другой старане, найчасьцей невінаватай і гатовай нават выбачыць вераломнаму

малжонку. Даўней, даючы развод з прычыны чужалоства аднае стараны, Царква якраз гэту вінаватую старану засуджвала на бязжэннасьць аж да сьмерці, аднак-жа ў 1904 годзе расейскі ўрад скасаваў гэтае абмежаваньне і Царква пасьпешліва да гэтага датарнавалася. Цяпер чужаложнік, калі ён прыме праваслаўе, бязумоўна атрымае развод з сваёю невінаватаю жонкаю і вазьме другую, асуджваючы першую на прымусовы цэлібат, калі яна захоча астацца вернаю сваёй рэлігіі.

Расейская Царква ў шафаваньні разводамі выперадзіла свае сёстры — іншыя аўтокэфальныя Цэрквы. Калі паражэньне дабравольчае арміі Врангеля выкінула ў 1920 г. на берагі Босфору дзесяткі тысяч уцекачоў з Расеі разам з клірам і япіскапамі, дык практыкі разводаў пачаліся і там у невядомым для грэцкае Царквы разьмеры. З гэтае прычыны паўстаў нават востры конфлікт паміж царгародзкім патрыархам і расейскім япіскапам Анастасіем, праводзіўшым у Канстантынопалі справы разводаў праваслаўных Расейцаў. Гэты япіскап, а за ім і Сынод эміграцыйных япіскапаў у Карлоўцах выступіў у абарону свае компэтэнцыі адносна справаў аб разводах, матывуючы сваё становішча таксама і тым, што ў Расеі закон і звычай прадбачыць прычыны да разводаў, невядомыя ў іншых праваслаўных Цэрквах. Гэтым вось шырокім лібэралізмам Царква ў Польшчы, верная дачка Царквы маскоўскае, хоча ашчасьлівіць і „ашчасьліўлівае" фактычна ня толькі сваіх верных з нараджэньня, але і каталікоў за цэну іхнага адступніцтва ад веры айцоў.

Дык хай, дзеля гэтага, Я. П. мітрапаліт ня дзівіцца, што становішча яго не знайдзе ў нас прызнаньня, ані разуменьня, наадварот — будзем прызнаваць яго, як дэморалізаваньне польскага грамадзянства. На практыкі Царквы глядзімо так сама, як на пакусы ўвядзеньня цывільных разводаў і на „гуманітарную" прапаганду Боя (пісьменьнік Boy-Żeleński — *Рэд.*).

(„Oriens").



# Дзьве сучасныя небясьпекі.

Jean Guiraud, гаворачы на шпальтах парыскае часопісі «La Croix» аб разьвіваньні ў шмат якіх краёх ідэі абожваньня дзяржавы, асабліва знайшоўшай яснае выражэньне ў галошаным гітлераўцамі „ачышчэньні расы" праз мэдыцынскую стэрылізацыю і натуральны падбор, асуджаныя Конгрэгацыяй Sancti Officii, а нядаўна і Сьв. Айцом у прамове перад Ражством, пацьвярджае, што ідэя гэта ня новая і змушае нас вярнуцца да добра вядомых у старадаўнасьці доктрынаў. На аснове гэтага прынцыпу ў старадаўнай Спарце скідалі з скалы дзяцей, якіх дзяржава ня лічыла для сябе карыснымі. Дзяржава была гаспадаром жыцьця і сьмерці грамадзяніна, без яе згоды немагчыма было жыць. Яна была ідалам, якому, як молёху, прыносілі ахвяры дзяцьмі. Гэткаю была дзяржава ў руках дэспотаў, называўшых сябе патомкамі багоў, гэткаю была дзяржава імпэратараў, абвяшчаных пасьля сьмерці багамі. Выплывала гэта з грунтоўнае памылкі ўсяго паганства, якое думала, што чалавека можна лічыць уласнасьцю дзяржавы, якой ён абавязаны служыць і якую павінен паважаць у асобе дэспотаў, як прадстаўнікоў ідэі дзяржавы. Статолятрыя, — высоўваньне дзяржавы на галоўнае, блізка што боскае, палажэньне ў грамадзянстве, — ёсьць адна з ступеняў ідалапаклонства.

Журнал „El Matti" надрукаваў артыкул Людвіка Стурзо, у якім аўтор кажа, што нявольніцтва існуе ня толькі ў афрыканскай Лібэрыі, але нават і ў цывілізованых краёх Эўропы. На першым месцы трэба паставіць Савецкую Расею, у якой дармовымі рукамі 150.000 ссыльных работнікаў збудавалі вялізарны водны канал, які злучае Белае мора з Балтыцкім, і будова якога каштавала шмат дзесяткаў тысяч ахвяраў людзьмі. Але не адна толькі Савецкая Расея завяла сыстэму рабства — яе заводзяць яшчэ і іншыя краі, датарноўваючы рабства да сваіх палітычных праціўнікаў, якіх замыкаюць у концэнтрацыйныя лагеры, ствараючы гэтым варункі немагчымасьці карыснае працы і пагаршаючы сямейнае і грамадзкае жыцьцё, паддаючы моральнаму ды фізычнаму зьдзеку пэўныя катэгорыі грамадзян.

У эканамічнай галіне існуюць два віды рабства: першы крыецца ў сяньняшняй сыстэме ўзнагароджаньня за працу, а другі — ў сыстэматычным абмежаваньні прадукцыі. Як той, так і гэты від рабства вырас на грунце бязіменнага і неадказнага капіталізму. Першы від рабства стварыў прорву паміж працадаўцаю і работнікам, ствараючы разам з гэтым эксплёатацыю работнікаў, а другі сьціснуў магчымасьць вольнае працы, уводзячы абмежаваньне ўвозу і вывазу.

Гэткім чынам кулачнае права і сягоньня грае рашучую ролю.

Заўважваецца імкненьне пазбавіць грамадзян правоў і вартасьцяў асобы — і дзеля гэтага, перш чым пачаць эксплёатацыю фізычнае працы, стараюцца моральна ўшчаміць чалавека. Чалавечае самалюбства заўсёды падпарадкаўвала слабейшыя адзінкі, аднак-жа цяпер яно прымае назовы або абагаўлёнае дзяржавы, або вышэйшага народнаэканамічнага інтарэсу.

Каб ухіліць кайданы сучаснага рабства, павінны зблізіцца паміж сабою сябры чалавечага грамадзянства ўсіх клясаў і станаў, павінна адрадзіцца пачуцьцё моральнае ўласнае годнасьці і асабістай адказнасьці, а перш за ўсё павінна праводзіцца найвышэйшая запаведзь Хрыста аб любові да бліжняга.

**(КАП).**

---

# Наш адказ.

За апошнія часы шмат пісалі ды яшчэ больш няпрыхільнікі Сьв. Уніі цешыліся з таго, што старшыня Камісіі „Pro Russia“ Я. Пр. Япіскап Д'Эрбіны, па прычыне хваробы, пакінуў сваё становішча, каб паправіць сваё здароўе ў Ніццы.

Учапіўшыся за гэты факт, пачалі высмоктваць, як з пальца, розныя фантастычныя думкі і цешыцца імі, як запраўднасьцю.

1. Няпраўда, што Камісія „Pro Russia“ мае быць скасованай.

2. Няпраўда. што Ўсходняя Місія а.а. Езуітаў мае быць переведзена з Польшчы ў Эстонію.

3. Няпраўда, што Уніяцкая Сэмінарыя з Дубна мае быць перанесена да Югаславіі ў Любляну.

Тутака мусім зазначыць, што нязлучаныя браты нашыя праваслаўныя пераблуталі Любляну з Люблінам. Я Пр. Архіяпіскап Эдуард Ропп заснаваў Місійны Інстытут, а ня Ўсходні Інстытут; гэты Інстытут заснованы ды па сяньняшні дзень істнуе ў Любліне (Польшча), а ня ў Люблянe (Югаславія). Праўда, ёсьць падобнасьць у назове паміж Люблінам і Люблянай, але ня ўсё роўна. Пачуў, браток, звон, але ня ведае дзе ён.

*Злучэнец.*

---

# *Хрыстос Васкрос!*

*Як Русь шырока і далёка,*
*Плыве з зямлі аж да нябёс,*
*Бы хваля горнага патока.*
*Вясёлы сьпеў: Хрыстос Васкрос!*

*Хрыстос Васкрос — іграюць звоны*
*Па нашых тысячных царквох,*
*А сэрц гарачых мілёны*
*Утораць ім па ўсіх мясцох.*

*Хрыстос Васкрос, як пах кадзіла,*
*Як той нябесны фіміам,*
*Людзкое сэрца напоўніла*
*І радасьць ўсім нясе людзям.*

*Хрыстос Васкрос, зьвініць ў паветры*
*Плыве па горах і палях,*
*Чуваці радасьць ў шуме ветру,*
*Пяе аб гэтым ў небе птах.*

*Бацькі дзяцей гэтак віншуюць,*
*А дзеці зноў бацькоў сваіх —*
*Хрыстос Васкрос! ў тых словах чуюць*
*Жыве любоў, надзея іх.*

*Хрыстос Васкрос! І раю дзьверы*
*Для ўсіх народаў адчыніў.*
*Злучысь, народзе мой, у веры,*
*Каб нас Хрыстос багаславіў!*

*Уладзімер Берняковіч.*



# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Люблін. (КАП). Місійны зьезд інтэлігенцыі.** 2—4 мінулага лютага ў Люблінскім Каталіцкім Унівэрсытэце адбыўся місійны зьезд сту дэлегатаў акадэмічных місійных колаў і гурткоў інтэлігенцыі. На зьезьдзе былі Я. П. Япіскап Фульман, віцэ-ваявода Длугоцкі, прадстаўнікі цывільных і вайсковых уладаў ды шмат гасьцей.



**Мамэнт пасьвячэньня ў духоўнікі выхаванцаў Папскае Усходняе Духоўнае Сэмінарыі у Дубне, якое адбылося на пачатку сёлетняга году.**

**Паварот у Царкву Хрыстову. Кракаў. (КАП).** У кракаўскую філію „КАП“ зьвярнуўся нейкі Іоан Тэпэр, былы сьвяшчэньнік Тарноўскае епархіі, які доўгі час быў у сэкце Фарона, дзе быў „благачынным,“ пасьля ў Годура, нарэшце ў „старакатолікаў.“ А цяпер хоча вярнуцца ў Царкву Хрыстову і просіць абвясьціць у друку гэткую заяву:

„Публічна заяўляю, што па глыбокім перакананьні і пасьля сур'ёзнага разважаньня, я пастанавіў вярнуцца ў лона Рымска-Каталіцкае Царквы, як адзінага апірышча праўды і сьвятасьці. За адступленьне ад сьвятое веры і за выкліканую ім пакусу публічна каюся і публічна пакорна прашу духоўныя ўлады даравяць мне. Зьвяртаюся да ўсіх тых, каго мае навукі і мой прыклад адарвалі ад Каталіцкае

Царквы, вярнуцца ў Яе сьвятое лона і злучыцца з Галавою Яе — Найсьвяцейшым Айцом нашым.“

**Луцк. (КАП).** Апошнім часам да Я. П. Япіскапа Шэлёнжэка зьвярнуўся з просьбаю аб пераходзе ў каталіцтва б. праваслаўны сьвяшчэньнік Канрад Лаўрэнчук. Пакідаючы праваслаўе а. Лаўрэнчук напісаў адкрытае пісьмо праваслаўнаму Мітрапаліту Дзіанісію. У пісьме, паміж іншым, гаворыцца:

„Шукаючы праўды, я, з падмогаю Хрыста Збавіцеля, знайшоў яе ў адзінай, праўдзівай, прававернай Каталіцкай Царкве, пад уладаю Сусьветнага Патрыярха Папы Рымскага. У агароджы гэтае праўдзівае Царквы Хрыстовае буду маліцца і за Вас, Уладыка, каб і Вы, адлажыўшы гордасьць жыцьцёвую, з ціхамірнасьцю, прычыняліся да спаўненьня запаведзі Хрыстовай аб адзінай стадзе і адзіным пастыру. Маючы надзею за гэта дзякую Вам за апраўданьне мяне ў розных абвінавачаньнях і наагул за ўсе Вашыя міласьці, Ўладыка, бо ад гэтага часу прызнаю над сабою ўладу Каталіцкае Царквы і належу да Яе. Пазнаўшы праўдзівую веліч і праўду ў Царкве Каталіцкай, я лічу за лепшае быць там апошнім і нават міранінам, чымся сьвяшчэньнікам пад Вашым духоўным кіраваньнем.“

**Пінск. (КАП). Скон заслужанае грамадзянкі.** 24-га студня с. г. тут памёрла Канстанцыя Скірмунт, 89 гадоў. Дзеля азначэньня грамадзкага палажэньня памёршай хопіць сказаць, што дом яе называлі Ватыканам. Глыбокую веру і любоў да Каталіцкае Царквы вызнавала да сьмерці, зможаная цяжкаю хваробаю захоўвала цьвярозы розум, цешачыся, што хоць на старасьць магла бачыць на акраінах Палесься і, прасьледаванага ў мінулым, Падлясься, свабодную Каталіцкую Царкву. За заслугі мела ад‘знакі: „Pro Ecclesia“ і дзяржаўны ордэн „Polonia Restituta.“

**Варшава. (КАП). Павіншаваньні украінцаў для сьв. Айца.** Па прычыне ўгодкаў узыходу на папскі пасад сьв. Айца Піуса XI ў уніяцкай царкве сталіцы на Мядовай вуліцы адбылася ўрачыстая служба божая, адпраўленая а. провінцыялам Рэшатылам. Прысутным быў Я. П. Апостальскі Нунцы, украінскія паслы і верныя гр.-кат. абраду.

12-га лютага с. г. прыбыла ў Нунцыятуру дэлегацыя украінскіх паслоў, якая даручыла Нунцыю павіншавальны адрэс для сьв. Айца, падчыркваючы пачуцьці сыноўскае любові і вернасьці для Хрыстовага Намесьніка. Адначасна пасол Хруцкі ад імя праваслаўных украінцаў даручыў пісьмо, у якім складае сьв. Айцу найшчырэйшыя павіншаваньні і выразы глыбокае ўдзячнасьці з боку праваслаўных у Поль-

шчы за апеку над праваслаўнымі, прасьледаванымі на савецкай Украіне.

**Вільня. (КАП). Стан здароўя Архіяпіскапа Ялбжыкоўскага.** У суботу 24 лютага с. г. Я. П. Архіяпіскап Рамуальд Ялбжыкоўскі цяжка захварэў на расстройства кішок. У той самы дзень прафэсар д-р Міхэйда зрабіў апэрацыю. Стан здароўя Архіяпіскапа задавальняючы. Лячэньне працягнецца ня менш як чатыры тыдні.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Ватыкан. (КАП). Цяперашні склад Калегіі Кардыналаў.** Калегія Кардыналаў складаецца цяпер з 56 сяброў, палавіна з якіх — італьянцы. Другая палавіна складаецца з 6 французаў, 4 амэрыканцаў, 4 немцаў, 3 гішпанцаў, 2 палякоў і па адным прадстаўніку ад Аўстрыі, Бэльгіі, Англіі, Ірляндыі, Чэхаславакіі, Партугаліі, Вугрыі, Канады і Бразыліі.

**Citta del Vaticano. (КАП). Колькі на сьвеце каталікоў?** Паводзе новае статыстыкі, праведзенае б. рэдактарам „Katholic Directory,“ апублікованай у „Holy Rood Cronicle“, колькасьць усіх каталікоў на ўсім сьвеце складае 363.764.793 і дзеліцца гэтак:

| Край | лацін. абрад: | інш. абрады: | Разам: |
|---|---|---|---|
| Эўропа | 200.274.033. | 5.900.814 | 106.174.847 |
| Азія | 7.455.631 | 1.109.316 | 8.564.947 |
| Афрыка | 5.735.548 | 62.137 | 5.797.685 |
| Амэрыка | 129.829.068 | 708.378 | 130.537.446 |
| Аўстралія | 12.689.868 | —„— | 12.689.868 |
| | 355.984.148 | 7.780.645 | 363.764.793 |

Паводле даных, сабраных Цэнтральным Камітэтам Сьв. Году, каталікі складаюць 19 працантаў насяленьня ўсяго сьвету, проці 16 проц. конфуцыянцаў, 13 проц. мусульман, 12 проц. розных індускіх рэлігіяў, 10,8 проц. буддыстаў, 8,9 проц. розных пратэстантаў, 7,1 проц. схізматыкаў, 6,6 проц. анімістаў, 4,1 проц. бесконфэсыяналаў і 0,9 проц. жыдоў. У Эўропе 43 проц. каталіцкага насяленьня, у Паўночнай Амэрыцы 33 проц., у Паўднёвай Амэрыцы 99,5 проц., у Афрыцы 4 проц. і ў Азіі 2 проц.

**Софія. (КАП). Пратэст каталіцкага япіскапату ў Баўгарыі.** Каталіцкія япіскапы ў Баўгарыі даручылі ўраду агульны мэморыял, у якім энэргічна пратэстуюць проці ўвядзеньня спэцыяльнага падатку за вучэньне каталіцкіх дзяцей. Падатак гэты складае суму ад 1000 да 2000 леваў і для бедных каталіцкіх бацькоў вельмі цяжкі. Япіскапы зазначаюць,

што налажэньне гэтага цяжару на каталікоў пярэчыць таксама і конституцыі, якая абвяшчае роўнасьць для ўсіх грамадзян і накладае на іх абавязак элемэнтарнае адукацыі. Апрача таго Япіскапы заяўляюць, што каталіцкім дзецям накідаюць праваслаўныя падручнікі рэлігіі.

**Лёндан. (КАП). Назоў „Нараджэньне Хрыста" забаронены ў саветах.** Маскоўскі карэспандэнт газэты „Times" паведамляе, што камісар асьветы выдаў дэкрэт, якім назовы „Нараджэньне Хрыстова" і „калядныя канікулы" школьнае моладзі маюць быць ухілены і заменены тэрмінам „Зімовыя канікулы." На час гэтых канікулаў загаданы былі ў школах спэцыяльныя экскурсіі да кінаў, музэяў, на коўзалкі і г. д.. каб ня даць магчымасьці дзецям хадзіць на багаслужэньні.

**Ватыкан. (КАП). Новае цудоўнае выздараўленьне ў Люрдзе.** У часе пілігрымства ў Люрд, у месяцы верасьні 1932 году, адна жанчына цудоўна выздаравела ад шматгадовае хваробы. Газэты паведамляюць, што Люрдзкае Лекарскае Бюро Праверкі, пасьля паўторнага дакладнага агляду, прызнала надпрыродны характар гэтага выздараўленьня. Самы факт вылячэньня хваробы і раптоўны спосаб выздараўленьня вытлумачыць пры падмозе звычайных законаў прыроды зусім немагчыма.

**Ватыкан. (КАП). Забойства Апостальскага Прэфэкта ў Манджурыі.** У цягніку, ехаўшым праз Сыбір у Цыцыкар, забіты кітайскімі бандытамі Апостальскі Прэфэкт у Цыцыкары а. Яўгені Інгвоф з Віфлеемскага Таварыства для заграпічных місіяў. Апостальская Прэфэктура ў Цыцыкары была закладзена ў канцы 1931 г., а забіты а. Інгвоф быў прэфэктам з 1932 г. У працягу кароткае працы нябожчыка місійная акцыя ў правінцыі Цыцыкар разьвілася нязвычайна моцна. У адным толькі мінулым годзе зарэестравана там 1769 навярненьняў, значыцца куды больш, як у іншых кітайскіх і манджурскіх прэфэктурах.

**Мадрыд. (КАП). Гэройскі паступак міласэрдзя гішпанскіх манашак.** Гішпанскія газэты паведамляюць аб гэткім выпадку, які здарыўся нядаўна на галоўным вакзале ў Кордоне. Каля аднаго вагону, у якім павінны былі ехаць 6 чалавек, хворых пракажаю, перавожаных у вядомы лепрозоры (месцапрабываньня пракажаных) у Фонтыльлё, тоўпілася шмат разявякаў. Няшчасныя хворыя былі гэтак аслабеўшы, гэтак змучаны гэтаю страшнаю хваробаю, што некаторыя з іх зусім не маглі хадзіць.

Але надышоў час, калі трэ' было сядаць у вагоны. Ніхто, нават даглядаўшыя хворых санітары ня мелі адвагі

падыйсьці да іх і памагчы ўвайсьці ў вагон: выгляд прaказы рабіў на ўсіх гэткае страшэннае ўражаньне, што кожны баяўся заразіцца і адзін за адным усе паступова стараліся адыйсьці назад. Выпадкова праходзіўшыя там манашкі ўбачылі няшчасных і, адразу падышоўшы да іх, унясьлі небаракаў у вагон.

**Ерусалім. (КАП). Труднасьці пры выбарах праваслаўных япіскапаў.** Ужо больш як два гады паміж праваслаўнымі Сьвятое Зямлі цягнуцца спрэчкі аб выбары новага патрыарха, замест памёршага патрыарха Даміяна. Справа гэтая перадана была ў спэцыяльную Камісію з 4-х асобаў, але да згоды дасюль не дайшло. Гэткая самая нязгода пануе і на востраве Кіпры пры выбары мясцовага мітрапаліта.

Практыка паказвае, якія сумныя рэзультаты паўстаюць сярод праваслаўнага грамадзянства, якое адарвалася ад адзінства з Сусьветнаю Царквою і з Намесьнікам Хрыстовым.

**Ватыкан. (КАП). Бедната амэрыканскіх дзяцей.** У палавіне студня с. г. ў Вашынгтоне адбылася нарада Бюра Пацмогі Амэрыканскім Дзецям, якая пацьвярдзіла страшэнную беднату сярод многіх сот тысячаў бедных і бяспрытульных дзяцей у Злучаных Штатах. Для дзяцей гэтых неабходным ёсьць кармленьне і памяшчэньне ў прытулкі. Агулам 6 мільёнаў дзяцей бедных амэрыканскіх сем'яў вымагаюць незабаўнае падмогі з боку грамадзянства.

**Жэнэва. (КАП). Выстаўка савецкае прапаганды бязбожжа.** Стараньнем Міжнароднага Паразуменьня проці 3-га інтэрнацыяналу ў Жэнэве ўладжана выстаўка, якая паказвае мэтоды бязбожніцкае савецкае прапаганды. Дзеля агляду выстаўлены кніжкі, савецкія журналы на чале з вядомым „Бязбожнікам“, шмат выданьняў аб барацьбе з рэлігіяй, розныя плякаты, фатаграфіі, лятучкі ды іншыя рэчы. Гнюсныя ў сваім зьмесьце дакумэнты служаць жывою нэгацыяй цьверджаньняў некаторых людзей, пабываўшых у сучаснай Расеі, нібыто барацьбы з рэлігіяй там ня існуе.

Галоўная часьць экспонатаў ілюструе практычныя пасьледзтвы гаспадарчае палітыкі саветаў — голад на вялізарных абшарах Украіны. Выстаўка мае рад афіцыяльных дакумэнтаў, якія загадваюць сялянам выдаваньне пшаніцы ды іншага збожжа, а таксама жахлівыя даныя аб мільённых ахвярах голаду. Фатаграфіі з гарадоў і вёсак, а перш за ўсё з Кіева, паказваюць, як галодныя падаюць на вуліцах і гінуць, ні ў кім ня будзячы ніякага спачуцьця, ніякага клопату. На ранейшых фатаграфіях відаць яшчэ, як людзі стараюцца даць падмогу паміраючым, а на пазьнейшых адбітках няма ўжо і гэтага: публіка спакойна праходзіць каля гінучых, ня выказваючы ніякага зацікаўленьня.

**Парыж. (КАП). Людаедзтва ў Саветах.** Парыская расейская газэга „Возрожденіе" зьмясьціла нядаўна пісьмо аднаго эмігранта, атрыманае ім з ваколіцаў Кубані. Пісьмо гэтак малюе страшэнныя варункі жыцьця ў цяперашняй Расеі:

„У большасьці выпадкаў у гарадох, дзеля недахопу дошчак, памёршых хаваюць бяз трунаў, закопваючы іх проста ў выкапаныя ў зямлі ямы. У вёсках яшчэ горш, таму што людзі ад голаду і галечы знаходзяцца ў вялікай апатыі. Сваякі іншы раз па колькі дзён ня могуць пахаваць памёршых і трупы ляжаць у хатах ды раскладаюцца. Трэба дадаць, што, па прычыне благога кармленьня і фатальных варункаў жыцьця, сьмяротнасьць расьце ў страшэнных разьмерах. Аб хлебе даўно ўжо забыліся. У тых мясцовасьцях, дзе ёсьць рыба, сяляне мелюць косьці і, дадаўшы крыху вады, пякуць нешта падобнае да цеста. На ўсёй Кубані няма ніводнага сабакі, ніводнага ката—усіх даўно ўжо паелі"...

„Journal de Geneve" мае ў сваёй рэдакцыі 2 пісьмы з Расеі, адно з Сыбіру, якое паведамляе аб тым, што жыхары кормяцца травамі і карэньнямі, зьбіранымі ў сьцяпох, а таксама аб частых выпадках забойства і людаедзтва. Другое пісьмо з Каўказу апісвае страшэнныя варункі жыцьця ў Тыфлісе, дзе на вуліцах трапляюцца трупы кінутых дзяцей, памёршых з голаду... Усю адказнасьць за гэткае гора нясуць улады, якія, апрача тэрору, нічога не даюць жыхаром.

**Бэрлін. (КАП). Хрысьціянства і тэўтонства.** Мюнхэнскі Архіяпіскап Кардынал Фаульгабэр сказаў у саборы сьв. Міхала прамову на тэму „Хрысьціянства і тэўтонства," у якой востра выступіў проці ідэяў, распаўсюджваных „нямецкімі хрысьціянамі." — Місія вучняў Хрыстовых, — заяўляе Кардынал,—пашыраць Сьвятое Эвангельле паміж усімі людзьмі і злучаць іх усіх у адно царства Божае, у якім ня можа быць упрывілеяваных і пагарджаных дзяцей... Прынцып „чысьціні расы," абвешчаны нацыяналь-соцыялістымі, ня мае запраўднае вартасьці, — закончыў Кардынал, — таму што мы адкуплены не нямецкаю крывёю, а крывёю Ісуса Хрыста.

17-га лютага з аказіі Вялікага Посту з амбонаў мюнхэнскіх цэркваў агалошана пастырскае пісьмо Кардынала Фаульгабэра, пасьвячанае навуцы **каталіцкае моральнасьці.** У пісьме гэтым бясстрашны абаронца праўдаў, прапаведваных Царквою, ясна і дакладна выясьняе верным, чаму ў справах грамадзкае моральнасьці Царква ня можа маўчаць. „Калі Хрыстос выдаў загад: „навучайце!" — піша Кардынал, — дык няма на зямлі гэткае сілы, якая прыказала-б: „маеце маўчаць!..." Моральныя законы павінны быць прапаведваны ня толькі перад простым народам, але і перад вялікімі гэтага сьвету. Хрысьціянская навука моральнасьці ёсьць асноваю сілы і культуры народаў, а прывязанасьць

да народу і бацькаўшчыны ня можа быць выражанаю мацней, як праз пільнаваньне запаведзяў Божых.

**Бэрлін. (КАП). Конфіскацыя каталіцкае ўласнасьці.** „Berliner Tageblatt“ паведамляе, што распараджэньнем Прэзыдэнта ў Дюсэльдорфе зроблена на карысьць прускага ўраду конфіскацыя ўсяе рухомае і нярухомае маемасьці Саюзу „Volksverein für das katholiche Deutschland,“ а таксама выдавецтва і друкарні гэтага Саюзу. Распараджэньне выдана на аснове закону аб конфіскацыі маемасьцяў саюзаў, варожых народу і дзяржаве.

**Бэрлін. (КАП). Абвешчаньне роспуску Таварыстваў каталіцкае моладзі.** На вялікім сходзе гітлераўскае моладзі у Кэльне пастаноўлена, што, з пункту гледжаньня адзінства нямецкай моладзі, у гэтым годзе павінны быць распушчаны тыя, што яшчэ існуюць, саюзы каталіцкае моладзі ды ўліты ў саюзы гітлераўцаў, дзе няма дыскусіяў на тэмы царквы і рэлігіі. Паліцыя забараніла саюзу каталіцкае моладзі „Neudeutschland“ усякія выступленьні і сходкі пад голым небам. Забарона матывуецца нібыто тым, што каталіцкая моладзь, насупроць забаронаў, ладзіла паходы, прыводзіўшыя да сутычак з гітлераўскаю моладзьдзю.

**Оломунец. (КАП). Шчодры дар Мітрапаліта.** Мараўскі Архіяпіскап-Мітрапаліт Прэчан ахвяраваў для бедных 1260 куб. мэтраў дроў, даверыўшы раздачу іх саюзу „Caritas.“ Ахвярованыя дровы займуць 42 таварныя вагоны і скірованыя будуць у найболей бедныя прыходы. Бяз сумліву шчодры дар Мараўскага Мітрапаліта знайдзе пасьлядоўцаў, а бедныя гэткім спосабам будуць выратаванымі ад сьцюжы.

**Ватыкан. (КАП). Каталіцтва ў Пэрсіі.** Адказваючы на адозву сьв. Айца, які жадаў стварыць місійны пункт у Пэрсіі, АА. англійскія Дамініканцы выказалі гатоўнасьць залажыць гэткі пункт. Новая місійная пляцоўка пашырыць сваю душпастырскую працу ў межах паўднёвае Пэрсіі і будзе знаходзіцца ў Sziraz. У Пэрсіі налічваецца цяпер каля 65 тысяч каталікоў, з якіх каля 60 тысяч належаць да ўсходніх абрадаў. Душпастырства сярод рэшты—5 тысячаў лацінскага абраду вядуць 20 эўрапэйскіх сьвяшчэньнікаў.

**Ватыкан. (КАП). Апостальскі Адміністратар для Лэмкаўшчыны.** Маючы на ўвазе запэўненьне насяленьню Лэмкаўшчыны, Перамышльскае епархіі, найлепшых варункаў рэлігійнае апекі і падмогі, Сьвятая Сталіца пастанавіла ўтварыць для гэтае часьці краю Апостальскую Адміністрацыю.

Адміністрацыя гэта ўстаноўлена дэкрэтам сьв. Конгрэгацыі Ўсходняе Царквы „Quo aptius consuleret“ 10-га лютага с. г. Першым Апостальскім Адміністратарам, залежным беспасярэдня ад Сьвятое Сталіцы назначаны а. Мікалай Нагірянскі, цяперашні вайсковы дзекан грэка-каталіцкага абраду.

Д-р Сьв. Тэолёгіі а. М. Нагірянскі радзіўся ў Галічыне ў 1879 г. Пасьля сканчэньня навук у гімназіі, сэмінарыі і унівэрсытэце высьвячаны быў у 1907 г. Душпастырскую працу ў польскім войску а. Мікалай вядзе з 1920 г. ў ранзе дзекана (палкоўніка).

За заслугі ад'значаны сьв. Айцом крыжам „Pro Ecclesia et Pontifice“ і папскім шамбэлянствам.

Абшар Апостальскае Адміністрацыі на Лэмкаўшчыне будзе абнімаць дэканаты: Букоўско, Горліцы, Грыбаў, Дынаў, Дукля, Кросна, Мушына, Рыманаў, Сянок. На рэзыдэнцыю для Апостальскага Адміністратара вызначаны Рыманаў.

**Брусэль. (КАП). Б. кітайскі прэм'ер высьвячаны на духоўніка.** У абацтве сьв. Андрэя ў Lophem-les-Bruges у Бэльгіі высьвячаны на духоўніка б. старшыня кітайскіх міністраў Дом Цэлестын Лю-Тсэнг Тсянг. Колькі гадоў назад міністар Лю Тсэнг-Тсянг, кінуўшы палітычную кар'еру, паступіў у ордэн Бэнэдыктынцаў у абацтве сьв. Андрэя. Абацтва гэтае ўтрымлівае ўласную місію ў апостальскім вікарыяце у Shunking.

**Ватыкан. (КАП). Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс у чэсьць Цара Хрыста.** Устаноўлена, што на будучыню міжнародныя эўхарыстычныя і ў чэсьць Цара Хрыста кангрэсы будуць адбывацца папераменна, напр. у гэтым годзе кангрэс у чэсьць Цара Хрыста, а ў будучым годзе — Эўхарыстычны і г. д.

**Масква. (КАП). Мучаніцкая сьмерць а Яна Тройго.** Паводле вестак ад корэспондэнта КАП-ай, ГПУ замучыла а. каноніка Яна Тройго. Першы раз нябожчык быў арыштованы ў сувязі з справаю с. п. Архіяпіскапа Цепляка ў сакавіку 1923 г. і прабываў у вастрозе каля 2-х гадоў. Другі раз ГПУ арыштавала яго ў канцы сьнежня 1927 г. і выслала на 5 гадоў у лагер прымусовае працы. Кару адбываў а. Тройго ў Салавецкім лагеры. Пасьля скончаньня сроку кары, г. зн. у канцы 1932 г. ГПУ надалей затрымала яго там. На дамаганьні паведаміць, на аснове чаго гэта робіцца, а. Тройго адказу не дастаў. 5.VII.1932 г. вывязьлі яго разам з іншымі сьвяшчэньнікамі з салавецкага вострава Аўзэр на Цэнтральны востраў і там пабарбарску зьдзекаваліся, вымагаючы, каб выракся сану і веры У канцы ліпня таго-ж 1932 г. вывязьлі а. Тройго ў ленінградзкі вастрог ГПУ разам з Япіскапам Матулёнісам і а.а. Хомічам, Дэйнісам, Навіцкім, Буяльскім і Савіцкім, якія з болем у сэрцы пабачылі, што калега іх ненармальны. Цяжка хворы, пасаджаны ён быў у адзіночную камэру, дзе мусіў цярпець страшныя моральныя мукі. Пасьля гадавога дзікага зьдзеку перавялі а. Тройго ў лагер прымусовае працы ў Лодзейным Полі, дзе ён у тую-ж ноч памёр ад „остраго помешательства,“ як падае ўрадовая ведамасьць.

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Айцец Нябесны Мой
Прыслаў Мяне з высот,
Каб збавіў людзкі род
Навукаю сваёй.
Даю, Браточкі, Вам
Я сэрцайка сваё —
Замкнута неба там
І вечнае жыцьцё.

Люблю Я, дзеткі, Вас!
А як-жа Вы Мяне —
Скажэце ўсе зараз:
Ці любіце, ці не?

Я люблю найгарачэй
Малых дзетак, чыстых, белых,
Найбольш душы тых дзяцей,
Што гаруюць век свой цэлы.

Я ўзаемнасьці жадаю!
Хто Мяне пад відам Хлеба
Годна, з любасьцяй, прымае,
Таго Я бяру да Неба.

Дык-жа скажэце ўсе:
Ці любіце Мяне?
Скажэце — так, ці не?



# Дарагія дзеткі!

Скажу аб адным важным і прыгожым здарэньні з жыцьця Ісуса Хрыста. Вы добра ведаеце, што Хрыстос хадзіў усюды і навучаў аб Царстве Божым. І вось, адноўчы, калі гэтак увесь дзень Хрыстос хадзіў, навучаў, аздараўліваў, клікаў людзей да пазнаньня праўды, — вельмі змучыўся, сеў каб адпачыць крышку... Але адпачыць Яму ня прышлося, — бо зноў ішла за Ім грамада людзей. Паміж іх былі і маткі з дзеткамі. Яны прасілі, каб Хрыстос пабагаславіў дзетак. Апосталы не хацелі пусьціць матак, кажучы, што Хрыстос надта змучаны і павінен адпачыць. Хрыстос-жа і тутака хацеў паказаць сваё міласэрнае сэрца і сказаў: „не перашкаджайце ім прыходзіць да Мяне, бо іх ёсьць Царства Нябеснае". Тады маткі падвялі сваіх дзетак, Хрыстос багаславіў кожнае дзіцятка, нават браў на калены, пясьціў іх і апосталы першы раз бачылі, як Хрыстос гэтак-

ціха, радасна, з любоўю ўсьмяхаўся... так добра было Хрысту паміж дзетак і яны гэтак падыходзілі да Яго... А калі ішлі да хаты, дык пэўна былі гэткія шчасьлівыя, як ніколі пасьля ў жыцьці...

Гэта было даўно!.. Цяпер вы ня можаце так падыйсьці да Хрыста, цалаваць Яго сьвятыя рукі, бачыць Яго сваімі вачыма, дык скажу вам нешта, дзеткі мае, — цяпер вы маеце яшчэ больш, цяпер вы ня толькі можаце быць з Хрыстом, можаце мець Яго заўсёды ў сваім сэрцы і ў душы... А бывае гэта тады, калі прымаеце Хрыста ў сьвятым Прычасьці. Тады Той Самы добры, сьвяты Хрыстос прыходзіць у вашу душу і дае вам многа-многа шчасьця і радасьці



**Дзіцячы сад і учасьніцы швацкага курсу пры манастыры С. С. Місіянэрак у Бэрэзьне.**

Але, каб было радасна на душы, трэба, каб душа была чыстая і любіла Хрыста, дзеля таго, што толькі з чыстай душой і чыстым сэрцам можна з любоўю падыйсьці да Хрыста.

Дзеткі дарагія! Чую, як пытаецеся ў мяне: „як палюбіць Хрыста?“ Паслухайце, памагу вам!.. Каб палюбіць Хрыста, трэба Яго пазнаць, пазнаць усё Ягонае сьвятое жыцьцё, усё, што Ён зрабіў добрае для людзей, а зрабіў Ён шмат, вельмі шмат добрага: аздараўліваў, ускрашаў памёршых, шкадаваў і ратаваў грэшнікаў ды пасьля памёр на крыжы за грахі ўсіх людзей і за вашыя таксама, дарагія

дзеткі, каб мы ўсе калісь маглі пайсьці да неба і быць шчасьлівымі... Але самі вы не патрапіце пазнаць усяго, трэба вам памагчы. І вось, дарагія дзеткі, ёсьць гэткія арганізацыі, каторыя памагаюць, асабліва дзеткам, пазнаць і палюбіць Хрыста і быць заўсёды з Ім разам...

Арганізацыя гэтая — гэта „Рыцарства Ісусава“, або „Эўхарыстычнае Рыцарства Дзяцей“.

У сярэдніх вякох, калі Гроб Хрыстоў быў ў руках паганцаў-мусульманаў, — хрысьціяне рабілі крыжовыя паходы на Ерусалім да Гробу Хрыстовага, каб адабраць і абараніць гэту сьвятую памятку ад рук паганцаў. Ішлі тысячы хрысьціян, а ўперад, першымі адважнымі жаўнерамі за сьвятасьць хрысьціянства, ішлі дзеці. А цяпер, перад сусьветнай страшэннай вайной, калі трэба было ратаваць увесь сьвет ад згубы, памагчы Хрысту і сьв. Сусьветнай Царкве, — ізноў злучыліся дзеці ў адну моцную армію — „Эўхарыстычнае Рыцарства“. Дзесяткі, сотні, а пасьля і тысячы дзяцей запісваліся ў гэту арганізацыю, і цяпер Эўх. Рыц. пашырана па ўсім сьвеце і належаць да яго—мільёны...

Запісвацца ў Эўхарыстычнае Рыцарства могуць дзеткі ад 7—16 гадоў — дзяўчаты і хлапцы. Але толькі паслухмяныя і добрыя дзеткі, каторыя ў хаце і ў школе даюць добры прыклад. Калі дзеці запісаліся да Рыцарства, яны ўжо — рыцары ды рыцаркі Хрыста. Гэта малое, адважнае войска Хрыстова, каторае любіць Яго, жыве для Яго і хоча ўсім сэрцам паказаць Яму гэту любоў сваю.

Галоўнымі апякунамі Эўхарыстычнага Рыцарства ёсьць Сам Хрыстос-Цар і Яго Маці — Прасьв. Багародзіца, апрача гэтага кожнае Рыцарства мае асобных сьвятых апякуноў. На зямлі галоўным начальствам зьяўляецца сам Айцец сьвяты. Гэта Яго вернае войска, каторае вучыць і іншых людзей і дзяцей любіць Хрыста. Кіруюць Эўхарыстычным Рыцарствам япіскапы і сьвяшчэньнікі; яны ладзяць сходкі, прыйманьні, а памагаюць ім кіраўнікі.

Залежна ад гадоў дзяцей, у Рыцарстве ёсьць розныя групы: гр. служыцеляў для хлопцаў, гр. Ангела Храніцеля, гр. Прасьв. Багародзіцы, гр. місійная і іншыя. Калі адбываецца прыймо — дзеці атрымліваюць значкі, таксама шырынкі (шарфы) — колеру блакітнага з белым або белага з жоўтым. Апрача гэтага маюць свой сьцяг, з каторым, як войска Хрыста-Цара, ідуць на ўрачыстыя паходы або набажэнствы. Кожны прыняты ў Рыцарства павінен прайсьці час пробы — ад некалькіх месяцаў да году. Пасьля пробы, калі ён заслужыў, яго прыймаюць да Рыцарства і ён (яна) робіцца ўжо праўдзівым (вай) рыцарам (кай). Рыцарства мае сваю літургію ў кожную першую нядзелю месяца, на якую пад свой сьцяг зьбіраецца ўсё Рыцарства з знач-

камі і шырынкамі. У кожную першую нядзелю месяца Рыц. мае агульнае сваё набажэнства — „Усхваленьне Прасьвятых Дароў". Найбольшая ступень Рыцарства—гэта Апостальства, да каторага могуць належаць дзеці старэйшыя і найлепшыя, каторыя вельмі любяць Хрыста і стараюцца, каб усе Хрыста палюбілі і верна Яму служылі. Значыцца, галоўнай мэтай Рыцара зьяўляецца:

1) праўдзівая, моцная любоў да Іс. Хрыста, глыбокая вера ў Яго прысутнасьць у Прасьв. Дарох і частае сьв. Прычасьце.

2) Самому быць добрым, прыкладным рыцарам (кай) і памагаць у гэтым іншым дзецям, і гэткім чынам паказаць сваю праўдзівую любоў да Ісуса Хрыста.

Каб зрабіцца добрым рыцарам (кай) трэба працаваць над самым сабой, выкараняць свае недасканальнасьці і грахі: непаслухмянасьць, ляніўства, зайздрасьць, гордасьць і іншыя; бароцца з пакусамі, а старацца здабыць: паслухмянасьць, чысьціню сэрца, увагу ў часе малітвы, суменнасьць і абавязкавасьць ды іншыя цноты. Трэба хацець працаваць, а памагае ў гэтай працы Матка Божая і Сам Хрыстос, Каторага дзеці часам нават кожны дзень прымаюць у сваю душу і сэрца, часта прыходзяць у царкву да Іс. Хрыста, утоенага ў Прасьвятых Дарох і ўсхваляюць Яго, моляцца і просяць...

Памагаюць у гэтай працы таксама абавязкі Рыцарства, якія рыцары і рыцаркі стараюцца суменна спаўняць.

Абавязкі гэтыя апішу ў чарговым нумары „Да Злучэньня".

*Сястра ГІЛЯРЫЯ.*



# Усячына.

**Голад.** З прычыны агульнага абяднення і неўраджаю ў Віленшчыне, асабліва ў Браслаўскім і Дзісьненскім паветах пануе голад, дзякуючы якому пашыраюцца розныя хваробы, а асабліва тыфус. Вядзецца ўжо дапамаговая акцыя, да якой заклікаем і мы ўсіх памагаць галадуючым братом, хто чым можа.

**Рэвалюцыя.** Нядаўна ў Аўстрыі тамашнія соцыяль-дэмакраты аб'явілі ўраду вайну. У змаганьнях былі ўжываны кулямёты і гарматы, прычым згінула сотні асоб і некалькі сот ранена. Перамог урад. — У Францы і так-жа адбываліся вялікія забурэньні, падчас якіх згінула так-жа многа людзей.

**Страшную торпэду марскую** ў форме падводнай лодкі выдумалі англійцы. Торпэду гэту можна будзе кіраваць пры помачы радыёвых хваляў; сіла яе на гэтулькі вялікая, што можна зьнішчыць найвялікшыя марскія панцырнікі. Каб прычынілася яна да супакою на сьвеце ня прыходзіцца хіба спадзявацца.

**Цікавая гара.** У Амэрыцы, у Штаце Арызона ёсьць гара, якая зьяўляецца вялікім мэтэорам, або йнакш кажучы, часткаю якойсь плянэты, ці зары, упаўшай на зямлю з неба і зарыўшайся часткова ў яе. Досьледы каля гэтай гары выказалі, што яна мае многа жалеза, плятыны і нават дробныя брылянты.

**(КАП). Колькі каталіцкіх шпіталяў на сьвеце?** На ўсім сьвеце ёсьць 21 тысяча каталіцкіх шпіталяў, у якіх працуе больш як 206 тысяч сёстраў-даглядчыцаў. Апрача таго каталіцкія даглядчыцы працуюць ў 96 тысячах розных каталіцкіх амбуляторыяў.

— **Найбольшая нямецкая бібліятэка** знаходзіцца ў Лейпцыгу і налічвае 1 мільён томаў. У працягу году паступае ў яе ў сярэднім каля 80 тысяч новых кніжак. Лік чытачоў больш як 300 тысяч („R. N.“).

— Як сьцьвярдзілі ангельскія дасьледчыкі, *на сьвеце ёсьць 6 мільёнаў нявольнікаў* („R. N.“).

— **Амэрыканскі Прэзыдэнт Рузвэльт** атрымліваў праз два сьвяточныя тыдні па 10 тысяч пісьмаў у дзень, а на самую Куцьцю атрымаў больш як 50 тыс. пісьмаў. („R. N.“).

— Ад 1-га студня с. г. уведзены *новы чыгуначны тарыф* (на большых адлежнасьцях абніжэньне даходзіць да 25 проц.).

# Календар

на м—ц Сакавік 1934 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | С | Прмч. Аўдоцьці | 14 | S | Matyldy. Lawona |
| 2 | Ч | Свмч. Хвядота | 15 | Č | Klemansa. Lonhina |
| 3 | П | Мч. Эўтропія і інш. | 16 | P | Abrahama. Pruzyny |
| 4 | С | Прп. Гарасіма. *Бацьк. С.* | 17 | S | Patrycyja. Giertrudy |
| 5 | Н | **Нядз. 4 В. п. Сьв. Іоана** | 18 | N | **Haŭryły. Kiryły. Adward.** |
| 6 | П | 42 м. Амор. Чанст. І Б.М. | 19 | P | Jazepa Ablub. Dz. Maryi |
| 7 | А | Свмчч. Херсонскіх | 20 | A | Aŭchimy. Chwiadośsi |
| 8 | С | Прп. Феафілакта | 21 | S | Benedykta. Filameny |
| 9 | Ч | 40 мучан. Сэвастыйск. | 22 | Č | Kaciaryny. Bahusława |
| 10 | П | Мч. Кадрата | 23 | P | Alfonsa. Feliksa |
| 11 | С | Сьв. Сапрона патр. Ер. | 24 | S | Haŭryły Archan. |
| 12 | Н | **Н. 5 В. п. Прп. Марыі** | 25 | N | **Wierbnica. Uw. I. Ch. ŭ J.** |
| 13 | П | Сьв. Нікіфара і м-цы Х. | 26 | P | Todara. Alimpii |
| 14 | А | Прп. Бэнэдыкта | 27 | A | Roberta. Jana |
| 15 | С | Мч. Агапа, і тых, што з ім | 28 | S | Jana. Syksta |
| 16 | Ч | Мчч. Савіна і Папы | 29 | Č | *Wial. Caćwier.* Aŭstachieja |
| 17 | П | Прп. Аляксея Чал. Б. | 30 | P | *Wial. Piatnica.* Anieli |
| 18 | С | Сьв. Кірылы Ерус. Л. С. | 31 | S | *Wial. Subota.* Balbiny K. |
| | | | | | KRASAWIK |
| 19 | Н | **Н. Вербніца. Ув. Г. у Ер.** | 1 | N | **Wialikdzień.** Tadory. Hug. |
| 20 | П | Прпп. Айцоў у м. С. заб. | 2 | P | **Druhi Dzień Wialikadnia** |
| 21 | А | Прп. Якава Спаведн. | 3 | A | Ryšarda |
| 22 | С | Свмч. Васіля | 4 | S | Sidara i Platona |
| 23 | Ч | *Вял. Чацьв.* Прмч. Нікана | 5 | Č | Wincentaha |
| 24 | П | *В. Пят. Прадсьвята Д.* | 6 | P | Wilhelma |
| 25 | С | *В Суб Дабрав. Н. Д.М.* | 7 | S | Hermanə. Epifana |
| 26 | Н | **Вялікдзень. Саб. Арх. Г.** | 8 | N | **Prawodnaja N.** Dzianisa |
| 27 | П | **Сьветлы Пан.** М-цы М. | 9 | P | **Dabrawieščańnie N.D.M.** |
| 28 | А | **Сьветлы Аўт.** Прп. Іл. | 10 | A | Eŭzechija. Apałona |
| 29 | С | **Сьветлая Сер.** Прп. М. | 11 | S | Lawona |
| 30 | Ч | **Сьвет. Чацьв.** Прп. Іоана | 12 | Č | Julija. Wiktara. Kanstant. |
| 31 | П | **Сьвет. П.** Прп. Іпатыя | 13 | P | Hermanahilda. Maksima |

# Календар

на м—ц Красавік 1934 г.

| Стары стыль | | | | | Новы стыль |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i święta łac. abr. | | |
| 1 | С | **Сьвет. С.** Прп. Марыі Э. | 14 | S | Waleryjana. Justyna |
| 2 | Н | **Н. Фамы. Пр. Ціта.** *Пр.* | 15 | N | **Nastuli. Bazyla.** |
| 3 | П | Пр. Мікіты | 16 | P | Benedykta. Marcelaha |
| 4 | А | Прп. Язэпа Песьн., *Рад.* | 17 | A | Rudolfa. Roberta |
| 5 | С | Мчч. Феадула і Агафап. | 18 | S | Apalinara. Bahumiła |
| 6 | Ч | Сьвц. Эўтыхія | 19 | Č | Lawona. Tymona |
| 7 | П | Прп. Рыгора Спаведн. | 20 | P | Wiktara. Todara. Ahniešk. |
| 8 | С | Ап. Ірадыёна | 21 | S | Symona. Auzelma. Bah. |
| 9 | Н | **Н. 3 Жанч. Міраносіцаў** | 22 | N | **Apieki św. Jazepa. S. i K.** |
| 10 | П | Мч. Цярэнція | 23 | P | *Juryja.* Wajciecha |
| 11 | А | Свмч. Антыпы | 24 | A | Fidelisa |
| 12 | С | Прп. Васіля Спаведн. | 25 | S | Marka Ewanhelistaha |
| 13 | Ч | Свмч. Арцема | 26 | Č | *M. B. Dobr. Rad.* Marcel. |
| 14 | П | Сьв. Марціна Папы Рым. | 27 | P | Piotry. Teafila. Žyty |
| 15 | С | Апп. Арыстарха, П. і Т. | 28 | S | Paŭła ad Kryža. Waleryi |
| 16 | Н | **Н. 4. Аб Расслабленым** | 29 | N | **Piotry. Roberta.** |
| 17 | П | Прп. Сымона і Ананія | 30 | P | Kaciaryny |
| | | | | | TRAWIEŃ |
| 18 | А | Прп. Іоана | 1 | A | Pilipa. Jakuba |
| 19 | С | Прп. Іоана Старапяч. | 2 | S | Žyhimonta. Atanazaha |
| 20 | Ч | Прп. Тодара Трыхіны | 3 | Č | *Znachod Św. Kryža* |
| 21 | П | Свмч. Януарыя | 4 | P | Floryjana. Moniki. |
| 22 | С | Прп. Тодара Сікеота і Віт. | 5 | S | Piusa. Ireny |
| 23 | Н | **Н. 5. Аб Самаранцы** | 6 | N | **Jana Apostała i Ewanh.** |
| 24 | П | Мч. Савы Страцілата | 7 | P | † *Kryžowy dzień.* Damic. |
| 25 | А | Ап. і Эванг. Марка | 8 | A | † *Kryžowy dzień.* Stanisł. |
| 26 | С | Свмч. Васіля | 9 | S | † *Kryžowy dzień.* Ryhora. |
| 27 | Ч | Свмч. Сымона | 10 | Č | *Uŝeście Hosp.* Izydara |
| 28 | П | Ап. Ясона і Сасіпатра | 11 | P | Franciška. Maksima |
| 29 | С | 9 мчч. Кізыкійск. | 12 | S | Pankrata |
| 30 | Н | **Н. 6. Аб Сьляп. Ап. Як.** | 13 | N | **Jana muč. Roberta.** |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.